






№ 7 (43)

КРАСАВІК 1944 ГОДУ

ТРЭЙЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

АДМЫСЛОВЫ ДЗІЦЯЧЫ ВЫПУСК


# Новы Шлях



# „Сьлёзы Тубі

Маленькі Тубі увесь свой невялікі век пражыў на беразе мора. Заўсёды перад ягонымі вачыма была бязьмежная прастора — то ціхая, ласкавая, то бурная, злосная. Сонца кожны дзень выплывала з вады з левага боку, праходзіла над самай галавой і хавалася у ваду з правага боку.

І усё сваё жыцьцё тут Тубі чуў, як хвалі набягалі на нізкі пяшчаны бераг і сьпявалі сваю песьню. З ёю ён клаўся спаць, яе ён чуў, калі прачынаўся уначы, не заціхала яна і у пякучы поўдзень, калі усё жывое хавалася у цень і адпачывала. Ён і уявіць сабе ня мог-бы, што дзе-небудзь можа быць такое мейсца, дзе ня чуваць гэтай песьні. Часамі, калі пачыналася бура, гэтая песьня пераходзіла у лямант, але маленькаму Тубі зусім ня страшны быў гэты лямант, як ня страшна было вунь той чайцы, якая толькі і жыве морам.

А ззаду, за сьпіной, за халупамі, пачынаўся лес, а што было за ім — Тубі ня ведаў. Чуў ён часам, як казалі пра нейкія землі, гарады, розныя дзівосныя краіны, але уявіць сабе гэтага ня мог. Ну, адкуль-жа можа узяцца нешта другое, апроч ягонага берагу і мора?

Тубі часта бегаў у лес, каб сарваць какосавы гарэх, банан і іншыя добрыя рэчы, але больш часу праводзіў у вадзе і адчуваў сябе у ёй як рыба.

Ён і ягоная маці жылі у нейкай халупцы з гальля. Бацька памёр тры гады таму, калі Тубі было восем год. Ён добра памятаў яго. Чорны, худы, як шкілет, і усё харкае крывёю.

Кажны год, у красавіку, наяжджалі сюды людзі з чорнымі барадамі, у белых халатах, у белых чаўнох. Яны мелі шмат чаўноў, набіралі шмат людзей, у тым ліку быў і бацька Тубі.

Чоўны адплывалі у мора, станавіліся там у шэраг, і голыя чорныя людзі кідаліся у мора, ныралі у ваду і праз часіну-дзьве вылазілі. Кажны з іх меў пры сабе кошык, і у гэты кошык яны зьбіралі на дне мора ракушкі.

Людзі з чорнымі барадамі і у белых халатах сядзелі на беразе у шатры. Перад імі стаялі розныя стравы і пітво, яны у біноклі глядзелі на мора, часам давалі нейкія загады.

У поўдзень рабілі перапынак. Чоўны падплывалі да берагу, людзі зносілі у шатры ракушкі. Тут іх разьбівалі і чагосьці шукалі у сярэдзіне. Адных са злосьцю кідалі у бок, у другіх знаходзілі нейкія блiскучыя, сьветлыя каменьчыкі. І тады дзядзькі у белым пстрыкалі пальцамі, шчэрылі белыя зубы і казалі:

— О, гэта добра!

— А гэтая штука можа даць тысяч дваццаць!

А людзі, што лавілі гэтыя ракушкі, ляжалі на беразе ледзь жывыя.

І у шмат каго з рота ішла кроў. Асабліва у бацькі Тубі.

Тубі падыходзіў да яго, плакаў, падносіў яму вады. Бацька усьміхаўся, прабаваў жартаваць з сынам, але гэта неяк не удавалася.

Праз гадзіну давалі сыгнал, і людзі зноў скіроўваліся у мора. Зноў пачыналася тое самае ныраньне.

Пад вечар бацька прыходзіў дахаты і, як сноп, валіўся на ложак. Маці клапацілася, даглядала яго, карміла, але яму нічога у горла ня лезла.

І так цягнулася цэлы месяц, кажны дзень, бяз ніякага перапынку.

У вастатні дзень бацька прынёс маці крыху грошай. Выглядаў ён ужо зусім дрэнна.

Маці засумавала.

А назаўтра бацька памёр.

Яшчэ памятае Тубі, як бацька аднаго разу узяў яго з сабой, і досьвіткам яны адны выехалі у мора. Там бацька пакінуў Тубі у чаўне, а сам нырнуў у мора.

Але на беразе пачуліся крыкі, шум; да іх падплылі два чаўны, бацьку схапілі, білі, пацягнулі кудысьці. Ён вярнуўся толькі праз тры дні. І доўга пасьля гэтага бацька і маці былі сумныя і хмурыя.

Тубі зразумеў толькі, што бацьку білі за тое, што ён нырнуў сам, адзін у чужое мора, што гэтае мора і ракушкі належаць нейкаму пану.

Доўга пасьля гэтага Тубі баяўся купацца у чужым моры, але яго ніхто не праганяў, і ён супакоіўся.

І вось аднаго разу маці сказала Тубі, што яму трэба вучыцца, што яму прыдзецца хадзіць за тры кілёмэтры «у школу». А потым маці павяла яго і пакінула у «настаўніка».

Гэты «настаўнік», відаць, быў вельмі сярдзіты, бо заўсёды трымаў у руцэ бізун.

Вучняў набралася чалавек пятнаццаць.

Пачаліся «заняткі». «Настаўнік» узяў пяць белых, досыць вялікіх каменьчыкаў, даў хлопцам, каб яны добра прыгледзеліся да іх, кінуў каменьчыкі у мора і загадаў пяці хлопчыкам, каб кажны з іх дастаў па каменьчыку.

Хлопцы нырнулі, вынырнулі. Чатыры хлопчыкі прынесьлі па каменьчыку, а пяты не знайшоў. Тады «настаўнік» сьцебануў яго бізуном па голай, шчуплай сьпіне... Дайшла чарга да Тубі. Ён плаваў і ныраў можа лепш за усіх хлопчыкаў, але пры думцы, што яму можа не пашанцаваць, што тады ён таксама атрымае бізуном — пры гэтай думцы у яго цямнела у вачох.

Раз, два, тры! Каменьчыкі паляцелі у ваду, хлопцы за імі. Тубі адразу заўважыў, што тут зусім няглыбока і сьветла, і гэта супакоіла яго. Шырока вытарашчнымі вачыма стаў ён прыглядацца да дна. Зеленаваты колер вады, выгляд дна, мігаценьне сьвятла — усё гэта яму было добра знаёма. Бяда толькі, што сустракаліся другія каменьчыкі, сярод якіх цяжка было знайсьці той, што патрэбен.

Вось ён заўважыў, кінуўся да яго, але разам з ім кінулася туды нейкае страшыдла. Тубі аж адхіснуў-

ся, але зараз-жа сьцяміў, што гэта ягоны таварыш, які ужо працягваў руку да каменьчыка.

У галаве Тубі агнём бліснула думка, што калі ён упусьціць, дык атрымае бізуном.

Ён напружыўся, штурхнуў таварыша і выхапіў камень у яго з-пад носа.

Выйшлі на бераг, падалі настаўніку каменьчыкі. Падаў і той хлопчык, але . . .

Ня той! — зароў настаўнік. — Ты сьляпы, ці што? Я цябе навучу добра глядзець.

І на цёмнай сьпіне хлопчыка адбіўся спачатку белы, а потым чорны шрам.

Заліўся хлопчык сьлязьмі, а сьледам за ім і Тубі.

— Чаго-ж ты, дурань, равеш? — зьвярнуўся да яго настаўнік.

Але Тубі ня мог сказаць, што гэты удар ягоны сябра атрымаў праз яго, Тубі.

Навука ішла шмат тыдняў, месяцаў.

Каменьчыкі кідаліся усё глыбей і глыбей. Потым пачалі кідаць ракушкі, якія так цяжка было разгледзець у вадзе.

А разам з цяжкасьцю заданьняў часьцей сыпаліся бізуны . . .

Скончылі «першую клясу», перайшлі у «другую».

Трэба было навучыцца як мага даўжэй пратрымацца пад вадой.

Выплылі у чаўне у мора. Спусьцілі якар, а да яго прывязалі кошык. Трэба было адным духам адвязаць пад вадой кошык і вынесьці наверх. Вузлы спачатку былі простыя, а потым усё хітрэйшыя і хітрэйшыя.

І бізуны сталі усё часьцейшыя і часьцейшыя . . .

Нырнуў Тубі, пачаў адвязваць кошык. Сьпяшаецца, рукі дрыжаць, а духу ужо не хапае. Яшчэ трымаецца хвілінку, другую; кошык вось-вось будзе адвязаны, але ужо у галаве памуцілася, у вушах зьвініць, ужо вада у нос набіраецца.

«Не, не магу. Хай лепш б'е».

І ён кідае у той момант, калі кошык быў, можна сказаць, ужо адвязаны. Але «настаўнік» яго ня біў, бо . . . Тубі паваліўся на дно чаўна няпрытомны і у яго з носа, як калісьці у ягонага бацькі, паказалася кроў . . .

Вучэньне скончылася. Тубі мае дванаццаць год і ужо можа падзарабляць. Праўда, ня столькі, як дарослыя, але яго больш ахвотна бяруць, бо навуку скончыў ён першым. Ды працуе ён на меншай глыбіні, бліжэй да берагу.

Дарослыя-ж, працуючы на значнай глыбіні, апрача кошыка, бяруць з сабою яшчэ вялікі нож. А хлопчыкі за іх сьпіною могуць быць і бяз зброі.

Прычапіў сабе Тубі кошык, узяў у рукі вялікі камень, каб хутчэй і лягчэй пайсьці на дно, — і нырнуў на дванаццаць мэтраў у глыбіню. (Дарослыя апускаюцца нават на дваццаць мэтраў).

Вось ён на дне. Тут не пясочак роўны, а скалы чорныя, кашлатыя, абросшыя расьціннасьцю. Сьвятла ужо менш даходзіць сюды, паміж скалаў нейкія чорныя ямы, дзе варушыцца нешта скручанае, сьвеціцца нейкае вока.

Вось на адным толькі камені ён заўважыў ракушкі, хуценька згроб іх, паклаў у кошык і ужо быў накіраваўся уверх, як заўважыў, што зрабілася цёмна, нібы нешта зьверху засланіла сьвятло.

Зірнуў — накіроўваецца да яго ужо запраўднае страшыдла, рыбіна, мэтраў чатыры даўжыні, са страшэнным ротам, пастаўленым неяк упоперак пад галавой, з вялікімі мігаючымі вачыма. У раскрытым роце відаць вялізарныя зубы. Гэта і быў той самы страшны вораг — акула — супроць якога і бралі людзі кінжалы.

Кінуўся Тубі у вадзін бок, кінуўся у другі, паказаўся ужо над вадой, але . . . Жудасны крык — хруснулі косьці, а разам і кошык . . .

Тубі загінуў . . .

Людзі з усіх бакоў сьпяшаліся на дапамогу. Акула досыць нязграбная і няспрытная, людзі могуць з ёй справіцца. Не пасьпела яна павярнуцца, як некалькі кінжалаў прабілі яе.

Затрапяталася зьвяруга, нават аглушыла хвастом аднаго чалавека. Запенілася мора, але белая пена была захварбаваная крывёю акулы.

Не прайшло ёй дарма гэтае злачынства, загінула і яна. Пацягнулі яе да берагу, разрэзалі ёй горла і бруха і там знайшлі беднага Тубі з ягоным кошыкам.

А у кошыку некалькі ракушак.

Лапы гаспадароў адразу-ж пацягнуліся да ракушак. Разьбілі адну, раздушылі другую, а у трэйцяй знайшлі вялікую, вельмі прыгожую пэрлу*).

Заблішчэлі вочы у гаспадароў, пстрыкнулі яны пальцамі:

— Во, гэта — рэч! Тысяч пяцьдзясят будзе.

Стаіць, галосіць матка над сваім сынам. Кляне свой лёс, які узяў ад яе мужа і сына. Хмура глядзяць голыя людзі на бязьвінную ахвяру — слаўнага, спрытнага маленькага Тубі.

Памякчэлі нават і сэрцы людзей у белых халатах. Нягледзячы на тое, што Тубі працаваў толькі сем дзён, яны заплацілі маці за увесь месяц і апрача гэтага дадалі яшчэ 100 рупій**).

Праз некалькі месяцаў у Лёндане быў баль у міністра замежных спраў. Запрошаныя былі такія паны, што на кажным з іх каштоўнасьцяў было ня менш, як на сто тысяч. Але-ж і сярод такіх багачоў агульную увагу зьвярнула на сябе жонка «нафтавага караля», ледзі Сьміт. Яна уся зьзяла золатам і дыямэнтамі. Але больш за усё вабіла да сябе вялізная, вельмі прыгожая пэрла. У залатой аправе, тонка ашліфаваная, яна вісела на грудзях, быццам жывая. Бледны колер, мяккае сьвятло, аксамітны выгляд — усё гэта прыцягвала да сябе вочы, і ня верылася, што гэта толькі камень.

— Пяцьдзясят тысяч каштуе! — шапталіся зайздросьлівыя пані.

— Нездарма людзі кажуць, што гэта скамянелыя Божыя сьлёзы.

Ня ведалі яны, што гэта ня Божыя сьлёзы, а сьлёзы маленькага, голага, чорнага Тубі з абтоку Цэйлён.

---

*) Пэрлы утвараюцца у васобных пэрлавых ракушках. Калі у сярэдзіну такой ракушкі пападзе якая-небудзь пяшчынка, дык сьлімак (малюска), што жыве у ракушцы, выдзяляе вадкасьць — сьлізь. Гэта сьлізь пакрывае пяшчынку, пачынае цьвярдзець, камянець і ператвараецца у пэрлу. Галоўным мейсцам здабычы пэрлаў ва усім сьвеце лічыцца Цэйлён (ля Індыі), а потым Пэрская затока і Чырвонае мора (між Аравіяй і Афрыкай).

**) Рупія — індыйская грашовая адзінка.



# Казка пра муху Буркуху і дзяўчынку Мурзуху





Казка гэтая пра муху
Ўсім вядомую Буркуху.
Многа дзе яна лятала,
Шмат куткоў утульных знала.



Але больш за ўсіх мясьцін,
Быў ёй любы кут адзін:
Там ня мучыла трывога
За жыцьцё яе штодня —



Бруду многа,
Ежы многа, —
Бястурботнасьць, цішыня!



Там жыла адна дзяўчынка,
Век мурзатая, бы сьвінка.



Есьці ёй паставіць матка,
А дзяўчынка разальле.



Сосам пэцкае апратку,
Жур разводзіць па стале.



Высмаруе мёдам кніжку,
На падлогу скіне лыжку.
Нос накорміць, па губах
Як размажа — глянуць страх!



І заўсёды да Мурзухі
Цэлым роем ліпнуць мухі.
Абступіўшы міску цесна,
Зь ёй ядуць яны сумесна.



А гуляць яна ідзе —
Дваццаць мух над ёй гудзе.
Цэлы дзень лятаюць сьледам,
Чуюць мухі мёду пах,
І сядаюць, каб пасьнедаць
На твары і на губах.
І Буркуха зь ёю ела,
Вечна клопату ня мела,
А пад'еўшы так, шторанку
Вылятала на гулянку.



Вось ляціць яна к сяброўкам,
Там жылі ў другім двары

Мухі, божыя кароўкі,
Павукі і камары.
Прыляцела к ім, а мухі
Проста чэзнуць ад сукрухі:
Трэйці тыдзень, як пільнуюць
Дом ад іх гаспадары,
Трэйці тыдзень галадуюць
Павукі і камары.
Ім жыцьця няма нікому
Ад вакольнай чысьціні.
Надыйшлі часы ліхія —
Хоць кідай знаёмы двор.
Парабіліся худыя —
Ледзь лятаюць,
Ледзь жывыя, —
Надыйшоў мушыны мор.



І давай тут плакаць мухі, —
Хоць лажыся памірай!
«А ў мяне, — пішчыць Буркуха, —
У дзяўчынкі у Мурзухі
Ня жыцьцё, а проста рай.



Раптам, быццам-бы з засады,
З-за парэчкавых кустоў
Ўніз пасыпалася градам
Плойма прыткіх вераб'ёў.
Мухі ўсе асалапелі,
Вераб'і іх тут-жа зьелі.
Толькі наша муха — ўбок,
Ды, як дужа, наўцёк.
З жаху ўся яна спацела;
Пяць завулкаў праляцела



І тады хутчэй цішком
Праз акно — у нейчы дом.
Бачыць муха: ў цяжкім горы
Цёця нейкая сядзіць
І у ложку хлопчык хворы
Ў няпрытомнасьці ляжыць.
Погляд мутны і пануры
У яго — тэмпэратура,
Ад яго гарачыня,
Як у печы ад агня.



Муха бліжай падляцела,
Хлапчуку на губы села,
І па шчоках прапаўзла
Ды — адразу да стала.
Вось прывольна дзе для мухі,
Спрытнай збродлівай Буркухі!
Можна есьці, можна піць:
Нечапана ўсё стаіць.



Спрабаваўшы сёе-тое:
Хлеб, кісель, сухарык, чай —
Муха бачыць — што такое
Там у шклянцы? — пачакай:

І к лякарству ўжо ляціць,
Падпаўзла — й давай тут піць.



Сербанула — дрэнна стала,
На нагах ледзь устаяла:
Як-жа гэта піць маламу?
Вельмі-ж горкае віно! —
І хутчэй к сабе дадому
Паляцела праз акно.



Ледзь жывой Буркуха-муха
Даляцела да Мурзухі,
Да сяброўкі да старой,
І хутчэй на губы к ёй.
Тут яна лякарства горыч
Смачным мёдам запіла,





А за дзень дзяўчынка хворай,
Няпрытомнаю зьлягла.

Погляд мутны і пануры,
У яе тэмпэратура.
Ад яе гарачыня,
Як у печы ад агня.



Плача мама,
Плача тата:
Хто ў хваробе вінаваты?
Што далей, то не лягчэй:
Трэба лекара хутчэй.



Так дзяўчынка прахварэла
Цэлы тыдзень, як зьлягла,
Ад гарачкі ўся гарэла,
І ня ела, ня піла.



Дзеці ўсе ідуць купацца —
Ёй даводзіцца застацца.




Дзеці ўсе йдуць у кіно,
Ну, а ёй — глядзі ў вакно.



Дзецям яблыкі і вішні,
Ёй-жа зноў — мікстуры выйшлі.



Дзецям з макам піражкі,
А Мурзусе — парашкі.



Толькі вы цяпер дзяўчынку
Не пазнаеце сябры:

Ходзіць чыстай, як сьняжынка,
Разам зь дзецьмі па двары.



Пыл сьцірае ўжо ад раньня,



Мые рукі да сьняданьня,



Мые ногі перад сном,



Чысьціць зубы парашком.



А для мухаў у сяброўкі
Пачастункаў поўна зноўку.
Толькі іншых — бачыш ты:
Мухаморы, мухалоўкі
І ліпушчыя лісты.

М. К.



# Янка-музыкант

Дзіця нарадзілася слабенькім і кволым. Хлопчык ледзь дыхаў. Толькі на чацьвертым годзе крыху паправіўся і сяк-так дацягнуў да дзесяці год.

Быў ён худы, загарэлы, з вялікім жыватом і запалымі шчокамі. Ільняная, амаль, кудлатая капна валасоў падала на сьветлыя і вытарашчаныя вочкі.

Зімой сядзеў Янка за печчу і ціхенька плакаў ад холаду, а часам і ад голаду, калі у маці ня было чаго зварыць, ня было чаго сьпячы. Летам хадзіў ён у кашульцы, шнурком падперазанай, у падраным саламяным капялюшы і, нібы птушка, глядзеў з-пад яго, задзіраючы галаву угору.

Маці ягоная, бедная падзёншчыца, жыла з дня на дзень, нібы ластаўка, пад чужою страхою.

На восьмым годзе аддалі Янку у падпаскі і, калі дома ня было чаго есьці, ён хадзіў у лес па грыбы. Нават дзіўна, як яго там ваўкі ня зьелі.

Незразумела чаму, але было у яго адно захапленьне — музыка. Усюды яму музыка чулася, а ужо як падрос — ні аб чым іншым і думаць ня мог.

Пойдзе ён у лес са статкам ці з дзецьмі па ягады — вернецца і бяз ягад, і без дзяцей, і, картавячы, кажа: «Мамка, а штосьці там у лесе іграла: вой-вой!» А мамка яму на гэта: «Чакай, вось я табе зайграю!». І даставалася-ж яму за «музыку». Хлопчык крычаў, абяцаў, што больш ня будзе, а сам усё-ткі думаў: «А усё-ж іграла там нешта у лесе!» А што іграла? Хіба-ж ён ведаў? Хвоі, букі, бярозы, івалгі — усё іграла, увесь лес, ды і усё тут.

Празвалі яго людзі Янка-музыкант.

Вясной бегаў ён з дому дудкі рабіць каля раўчака. А уночы, калі пачыналі квакаць жабы, калі крычалі дзяргачы на лузе і стракаталі у роснай траве цьвіркуны, пеўні сьпявалі за плятнямі, Янка ня мог спаць і усё слухаў. Ва усім чуў ён музыку.

Вялікім сьвятам было для яго слухаць іскрыпку дзе-небудзь на вясельлі ці на дажынках. Пасьля гэтага ён залазіў на печ, маўчаў цэлымі днямі і пазіраў з цемры бліскучымі вачыма.

Нарэшце ён сам зрабіў сабе іскрыпку з дранак і конскага валасу, але ягоная іскрыпка не хацела іграць так хораша, як тыя: яна ціха-ціха пішчэла, нібы камарык або мышка.

А Янка усё-ж іграў на ёй з раньня да вечара і столькі атрымліваў за гэта штурханцоў, што меў выгляд абабітага зялёнага яблыка.

Зусім не падобны ён быў да іншых дзяцей, — хутчэй нагадваў сваю самаробную іскрыпку, якая ледзь-ледзь брынчэла. Перад новым ураджаем ледзь не паміраў Янка з голаду, бо жыў толькі сырой морквай і жаданьнем дастаць іскрыпку.

Не прывяло яго гэта да дабра.

Была іскрыпка у ваднаго слугі у двары, і часам, адвячоркам, ён іграў на ёй. Іншы раз Янка падпаўзаў паміж лапухоў да адчыненых дзьвярэй пакою, каб паглядзець на іскрыпку. Іскрыпка вісела на сьцяне супроць дзьвярэй.

Напружана і прагна глядзеў хлопчык на іскрыпку, і яму здавалася, што ён ня варты дакрануцца да яе, што гэта самае дарагое для яго у жыцьці. Аднак ён так хацеў мець іскрыпку, хоць раз узяць яе у рукі, хоць раз блізка разглядзець яе. Ягонае беднае маленькае сэрца дрыжэла ад шчасьця пры гэтай думцы.

І вось аднойчы уначы нікога ня было у пакоі. Дом быў пусты, а слуга сядзеў у другім канцы дому.

Янка прытаіўся у лапухох. Праз адчыненыя дзьверы глядзеў ён на жаданую іскрыпку. На небе быў поўны месяц, і сьвятло ягонае коса падала у вакно. У гэтым сьвятле усё было відаць выразна: увагнутыя бакі, струны і выгнутая шыйка. Як сьветлячкі, блішчэлі калочкі іскрыпкі і, як срэбны прут, зьвісаў смычок.

Ах, як дзіўна было усё гэта.

Патануўшы у лапухох, апіраючыся локцямі аб калені, з разяўленым ротам, ён усё глядзеў і глядзеў. Страх утрымліваў яго на мейсцы, а нейкая непераможная сіла штурхала яго наперад. Вось плыве да яго асьветленая іскрыпка, сьвятло ейнае то гасьне, то зноў мацней разгараецца. Павеяў вецер, ціха зашумелі дрэвы, зашаптаў лапух, і Янка выразна пачуў: «Ідзі, Янка! У пакоі нікога няма, ідзі, Янка!»

Сьветлая была ноч. Засьпяваў у садзе, над сажалкай, салавей, засьвістаў: «Ідзі! Ідзі! Вазьмі!» Казадой у ціхім палёце закружыў над галавой хлопчыка і крыкнуў: «Ня трэба, Янка! Ня трэба!»

Але адляцеў казадой, застаўся салавей, і лапух усё выразьней шаптаў: «Там нікога няма!» Зноў засьвяцілася іскрыпка.

Маленькая фігурка асьцярожна пасоўвалася наперад, а салавей усё ціхенька пасьвістваў: «Ідзі! Ідзі! Вазьмі!»

Усё бліжэй да дзьвярэй пакою мільгае белая кашуля. Яе ужо не хаваюць цёмныя лісты лапуха. На парозе пакою чуваць перарывістае дыханьне слабых грудзей хлопчыка. Яшчэ хвіліна — і белая кашулька зьнікла, за парогам яшчэ відаць босая ножка... Дарэмна казадой прыляцеў ды яшчэ раз і яшчэ раз крыкнуў: «Не, не!»

Янка ужо у пакоі.

Ціхая летняя зарніца асьвятліла яшчэ раз пакой і Янку на чацьвярэньках перад іскрыпкай, з галавой, паднятай угору. Праз хвіліну пачуўся у цемры ціхі і жаласны гук, нібы нехта незнарок крануў струны... і раптам...

Грубы заспаны голас з кутка пакою запытаў сярдзіта:

— Хто там?

Янка затаіў дыханьне, але грубы голас запытаў зноў:

— Хто там?

Сярнічка чыркнула аб сьцяну, стала сьветла, а пасьля...

Праклёны, удары, плач дзіцяці, просьбы... сабачы брэх, мільганьне сьвятла у вокнах, крык на двары...

На другі дзень бедны Янка ужо стаяў на судзе перад старастам.

Паклікалі вартаўніка Стаха: «Вазьмі ты яго і дай яму, каб памятаў!»

Стах кіўнуўся сваёй дурной, зьвярынай галавой, узяў Янку пад паху нібы кацянё, і панёс да хлява.

Янка або не разумеў у чым справа, або вельмі ужо спужаўся, але не сказаў ні слова, глядзеў толькі, як злоўленая птушачка. Хіба ён ведаў, што з ім зробяць. Толькі, калі Стах расьцягнуў яго на зямлі, задраў кашульку і выцяў лазіною, Янка крыкнуў: «Мама!..» і з кожным ударам лазіной ён ускрыкваў: «Мама! Мама!..», але усё цішэй, усё слабей, а пасьля і зусім змоўк.

Прыйшла маці, узяла хлопчыка, але прышлося ёй несьці яго.

Янка ня устаў і на другі дзень, а на трэйці дзень пад вечар ён паміраў на лаўцы пад дзяружкай. Шчабяталі ластаўкі на чарэшнях, што расьлі каля хаты. Сонечны прамень, пранікшы у вакно, заліў сьветлую растрапаную галоўку і твар, у якім ня было ні крывінкі.

Побач з ім ляжала ягоная самаробная іскрыпка.

Раптам твар паміраючага прасьвятлеў, і з губ сарваўся шэпт:

— Мама!

— Што, сынок? — адгукнулася маці. Яе душылі сьлёзы.

— Мама, будзе у мяне запраўдная іскрыпка?

— Будзе, сынок!... — адказала маці. І такі ахапіў яе вялікі сум, што яна не магла больш гаварыць, рынулася тварам на скрыню і пачала плакаць. Калі яна падняла галаву і паглядзела на Янку, вочы маленькага скрыпача былі адкрытыя, але нярухомыя, і сур'ёны твар пацямнеў і застыў. Зьнік таксама і сонечны прамень.



# САБАКА

НАРОДНАЯ КАЗКА У АПРАЦАВАНЬНІ У. ГЛЫ



Некалі у гаспадароў быў добры сабака. Звалі яго Тузікам. Праз усё жыцьцё служыў ён ім, ахоўваў іхнае дабро, пільнаваў хаты, сьцярог скаціну, каб дзе які драпежнік не схапіў якую авечку, быў верным прыяцелям чалавека. Гаспадары яго цанілі і бераглі.



Але, як усё жывое, састарэўся і сабака, перасталі як раней востра бачыць вочы, горш сталі слухацца старыя ногі, стомленыя беганінаю праз цэлы свой сабачы век. Некалі лахматы і прыгожы, цяпер Тузік схудаў, на аблезлых бакох відаць былі худыя, як жэрдзіны рэбры.



Зьнялюбеў тады сабака сваім гаспадаром. Пачалі яны на яго косым вокам паглядаць, горш карміць, а пасьля і зусім пачалі праганяць з хаты, не давалі есьці.

Бедны сабака здалёку з болем паглядаў на сваю былую хату заплыўшымі сьлязьмі вачыма. Жывот сьцягвала ад голаду, смактала у сярэдзіне, а у галаве паўставалі абразы смачнае ежы, крохкіх касьцей, заціркі з поліўкай. Але схамянуўшыся, Тузік ня бачыў каля сябе аніводнае скарыначкі хлеба.

Мабыць гэтак дачасна і памёр-бы ён не на сваім двары, каб добрыя людзі з другіх хатаў часам не падкінулі яму з літасьці якую непатрэбную костку.



Аднойчы гаспадары былі асабліва у дрэнным настроі. Прагнаўшы Тузіка, яны праз колькі часу убачылі яго на гародзе паміж градаў.

Зьвярнуўшыся у клубочак ён схаваўся быў у баразьне, абы быць бліжэй да свайго колішняга кутка на двары. Як на тое ліха, у гарод залезьлі і сьвіньні і пачалі чыніць шкоду градам.

Узлаваны гаспадар з калом пабег выганяць сьвіней і раптам убачыў каля іх Тузіка. Той вінавата глядзеў у гаспадаровы вочы, як-бы просячы літасьці. Але злосны гаспадар калом перацягнуў па ім і пабітага і хворага зусім прагнаў са двара.



Паслухмяна, моўчкі пацягнуўся сабака у бок лесу. Сеў на узьлесьсі і завыў з гора.



Пачуў воўк гэтае вы...
кі, пахадзіў каля яго, ...
сам, пашчэрыў зубамі. ...
чапіць, пабаяўся, бо са...
ны з ім.



Праз колькі часу ...
у гэты час гаспадыня ...
з сабой сваё дзіця раза...
віла яе наводдалі, дзі...
жне.

Падбег Тузік да яе, ...
цяці, але гаспадыня а...
бегся сабака далёка, ле...
па чалавечай ласцы.

Тымчасам воўк, шу...
дзеў, што гаспадыня ...



# ...АК і ВОЎК

ПРАЦАВАНЬНІ У. ...БІННАГА З МАЛЮНКАМІ МАСТАКА МІХАСЯ ЭНДЭ

Пачуў воўк ...ыцьцё, падбег да саба... пахадзіў каля ...панюхаў, пакруціў но...м, пашчэрыў зубы. Але не асьмеліўся за...піць, пабаяўся, ...бака быў ростам роў... з ім.

Праз колькі ...айшоў Тузік у поле. А ...ты час гаспа... пайшла жаць і узяла ...бой сваё дзі...ям з калыскай. Паста... не наводзіц...дзя гуляе у ёй, а сама ...

Падбег Тузік ... хацеў сесьці каля дзі...і, але гаспадын...дагнала яго прэч. Ад...я сабака ...ёг у траўцы ды сумуе ...чалавечай ...

Тымчасам воўк ...каючы спажывы, угле..., што гаспадын... занятая працай, а дзіця нікім не сьцеражэцца. Падбег ён да калыскі, выхапіў дзіця, ды наўцёкі. Пакуль зьбегліся людзі, воўк ужо быў далёка і яго ніхто не здагнаў-бы.

На шчасьце воўк ухапіў і нёс дзіця толькі за кашульку, і яно моцна плакала.

Але тут пачуў гэта Тузік. Угледзеўшы ваўка з дзіцём, ён напружыў усе свае старыя сілы і кінуўся здаганяць ваўка. Бяжыць, гаўкае, дабег да ваўка, рве яго за сьпіну, заміняе бегчы.



Воўк з дзіцём уперад, а сабака напярэймы, воўк хоча збочыць, а Тузік за бакі яго ды ня пушчае. Пабачылі гэта і пачалі крычаць іншыя жнейкі, ды з сярпамі таксама наўздагонкі. А тут і мужчыны пачулі гэта ды бягуць з каламі. Бачыць воўк, не пераліўкі, кінуў дзіцянё ды ходу у лес. Гэтак сабака і выратаваў дзіця.



Прынёс ён яго асьцярожна. Маці ад радасьці не магл· слова прагаварыць.



Зразумелі тады гаспадары, якога яны прыяцеля праганялі і якую ён яшчэ паслугу зрабіў ім.



Узялі яны да сябе Тузіка, прыласкалі, накармілі. З тых пор ужо да самай сьмерці ён меў добрую ежу і цёплы кут.



І яшчэ доўга ён служыў ім надзейна і верна, аддана і шчыра, бо сабака заўсёды лепшы прыяцель чалавека і ягоны найлепшы памочнік, які ніколі ня зрáдзіць свайму гаспадару.



# Сьляпы музыка

I

Аднойчы сьляпы хлопчык Петрык быў адзін на узгорку каля рэчкі. Сонца садзілася, у паветры было ціха, толькі мычаньне стада, якое вярталася у вёску, глуха далятала сюды. Хлопчык толькі-што перастаў іграць і адкінуўся на траву. Ён задумаўся на часінку, як раптам нейчыя лёгкія крокі абудзілі яго. Ён нехаця прыузьняўся на локці і прыслухаўся. Крокі спыніліся каля узгорка. Паходка была яму незнаёмая.

— Хлопчык! — нечакана пачуў ён вокліч дзіцячага голасу, — ці ня ведаеш ты, хто тут толькі-што іграў?

Сьляпы ня любіў, калі парушалі ягонае адзіноцтва. Таму ён адказаў на пытаньне ня зусім ветліва:

— Гэта я…

— Як ты добра іграеш, — сказала дзяўчынка.

Сьляпы прамаўчаў.

— Чаму-ж вы не адыходзіце? — спытаў ён затым, чуючы, што няпрошаная госьця усё яшчэ стаіць на мейсцы.

— Што-ж ты мяне гоніш? — запыталася дзяўчынка сваім чыстым і зьдзіўленым голасам.

— Я ня люблю, калі да мяне прыходзяць…

Дзяўчынка засьмяялася.

Вось яшчэ!… Глядзеце на яго! Ці-ж уся зямля твая і ты можаш каму-небудзь забараніць хадзіць па зямлі?

— Мама загадала усім, каб сюды да мяне не хадзілі.

— Мама? — перапытала задуменна дзяўчынка. — А мая мама дазволіла мне хадзіць каля рэчкі…

Хлопчык прывык, каб яму заўсёды уступалі, і таму зьдзівіўся такой настойлівасьці.

Ён падняўся і загаварыў хутка і узрушана:

— Ідзеце, ідзеце, ідзеце!…

Нявёдама, чым-бы скончылася гэтая сцэна, але у гэты самы час з двара пачуўся голас Якіма, які клікаў хлопчыка піць гарбату. Ён хутка зьбег з узгорка.

— Ах, які дрэнны хлопчык, — пачуў ён за сабой.

II

Назаўтра, седзячы на тым-жа мейсцы, хлопчык успомніў учарашнюю сутычку. У гэтым успаміне цяпер ня было прыкрасьці. Наадварот, яму нават хацелася, каб зноў прыйшла тая дзяўчынка з такім прыемным, спакойным голасам, якога ён ніколі яшчэ ня чуў. Знаёмыя ягоныя дзеці моцна крычалі, сьмяяліся, біліся і плакалі, але ні адзін з іх не гаварыў так прыемна. Ён пашкадаваў нават, што пакрыўдзіў незнаёмую, якая, напэўна, ніколі больш ня прыйдзе.

І запраўды, тры дні дзяўчынка зусім ня прыходзіла. Але на чацьверты Петрык пачуў ейныя крокі унізе, на беразе ракі. Яна ішла ціха; пясок лёгка шуршэў пад ейнымі нагамі.

— Паслухайце! — паклікаў ён, калі яна параўнялася з ім. — Гэта зноў вы?

Дзяўчынка не адказала. Аднак, прайшоўшы некалькі крокаў, незнаёмая спынілася. Дзьве-тры хвіліны маўчалі. Яна перабірала у гэты час букет палявых кветак, які трымала у руках, а ён чакаў адказу.

— Хіба вы ня бачыце, што гэта я? — спытала яна нарэшце.

Гэта простае пытаньне болем адгукнулася у сэрцы сьляпога. Ён нічога не адказаў, і толькі ягоныя рукі, якімі ён упіраўся у зямлю, сударгава схапіліся за траву. Але гутарка пачалася ужо, і дзяўчынка, увесь час стоячы на тым-жа самым мейсцы і займаючыся сваім букетам, зноў запыталася:

— Хто цябе навучыў так хораша іграць на дудцы?

— Якім навучыў, — адказаў Петрык.

— Вельмі хораша. А чаму ты такі злосны?

— Я… ня злуюся на вас, — сказаў хлопчык ціха.

— Ну, дык і я ня злуюся… Давай гуляць разам.

— Я ня умею гуляць з вамі, — адказаў ён, панурыўшыся.

— Ня умееш гуляць?… Чаму?

— Так.

— Не, чаму-ж?

— Так, — адказаў ён ледзь чутна і яшчэ больш панурыўся.

— Які ты сьмешны, — загаварыла яна бяз злосьці і села побач з ім на траве. — Гэта ты, мабыць, таму, што яшчэ са мной незнаёмы. Вось калі пазнаёмішся, тады перастанеш баяцца. А я не баюся нікога.

Яна гаварыла гэта з бесклапотнай яснасьцю, і хлопчык пачуў, як яна кінула сабе у хвартух груду кветак.

— Дзе вы узялі кветкі? — запытаўся ён.

— Там, — кіўнула яна галавой, паказваючы назад.

— На сенажаці?

— Не, там.

— Значыцца, у гаі? А якія гэта кветкі?

— Хіба ты ня ведаеш кветак?… Ах, які ты дзіўны… запраўды, ты вельмі дзіўны…

Хлопчык узяў у руку кветку. Ягоныя пальцы хутка і лёгка кранулі лісьце і пялёсткі.

— Гэта люцік, — сказаў ён, — а вось гэта фіялка.

Потым яму захацелася тым-жа спосабам азнаёміцца і з дзяўчынкай: узяўшы левай рукой дзяўчынку за плячо, ён правай пачаў абмацваць ейныя валасы, потым павекі, і хутка прабег пальцамі па твары.

Вызваліўшы сваё плячо ад рукі хлопчыка, дзяўчынка раптам ускочыла на ногі і заплакала.

— Навошта ты пужаеш мяне, нядобры хлопчык? — загаварыла яна гнеўна, праз сьлёзы. — Што я табе зрабіла?… Навошта?…

Ён сядзеў на тым-жа самым мейсцы, нізка схіліўшы галаву. Потым кінуўся на зямлю і заплакаў. Плач гэты мацнеў з кажнай хвілінай, усё ягонае маленькае цела уздрыгвала.

Дзяўчынка, якая зьбегла ужо з узгорка, пачула гэты глухі плач і са зьдзіўленьнем павярнулася. Бачачы, што ейны новы знаёмы ляжыць тварам да зямлі і горка плача, яна пашкадавала яго і спынілася каля Петрыка.

— Паслухай, — загаварыла яна ціха, — чаго ты плачаш? Ты, напэўна, думаеш, што я паскарджуся на цябе? Ну, ня плач, я нікому не скажу.

Словы спачуваньня і ласкавы тон выклікалі у хлопчыка яшчэ большы прыступ плачу. Тады дзяўчынка падкорчыла ногі, прысела ля яго. Пасядзеўшы так



*Яна ішла ціха; пясок лёгка шуршэў пад ейнымі нагамі.*

з поўчасіны, яна ціха-ціха кранула ягоныя валасы, пагладзіла ягоную галаву і пачала выціраць хусткай заплаканыя вочы.

— Ну, ну, пакінь-жа. Я даўно ня злуюся. Я бачу, ты шкадуеш, што напалохаў мяне...

— Я не хацеў напалохаць цябе, — адказаў ён, глыбока уздыхнуўшы.

— Добра, добра. Я ня злуюся... Ты-ж больш ня будзеш? — Яна прыўзьняла яго з зямлі і старалася пасадзіць побач з сабою. Ён не пярэчыў.

— А усё-ткі ты вельмі дзіўны, — сказала яна з задуменным спачуваньнем.

— Я ня дзіўны, — адказаў хлопчык, — я ня дзіўны... Я... я... сьляпы!

— Сьляпы-ы? — працягнула яна нараспеў, і голас яе уздрыгнуў, быццам гэтае сумнае слова, якое ціха вымавіў хлопчык, цяжарам лягло на ейнае маленькае сэрца.

— Сьляпы-ы? — паўтарыла яна яшчэ раз больш дрыжачым голасам, абвіла шыю хлопчыка рукамі і прытулілася да яго тварам.

III

Некалькі хвілін яны маўчалі.

Крыху супакоіўшыся, дзяўчынка зрабіла спробу перавесьці гутарку на іншую тэму.

— Сонейка зайшло, — сказала яна у задуменьні.

— Я ня ведаю, якое яно, — сумна адказаў хлопчык. — Я яго толькі адчуваю...

— Ня ведаеш сонейка?

— Не.

— А... а сваю маму... таксама ня ведаеш?

— Маму ведаю. Я заўсёды здалёк пазнаю ейную паходку.

— Так, так, гэта праўда. І я з заплюшчанымі вачыма пазнаю сваю маму.

Гутарка прыняла больш спакойны характар.

— Я умею чытаць, — першым загаварыў Петрык, — і хутка навучуся пісаць пяром.

— А як-жа ты?... — пачала было яна і раптам, засароміўшыся, сьціхла. Але ён яе зразумеў...

— Я чытаю па сваёй кніжцы, — растлумачыў ён, — пальцамі.

— Пальцамі? Я-б ніколі не навучылася чытаць пальцамі. Я і вачыма дрэнна чытаю.

— А я магу чытаць нават пафранцуску.

— Пафранцуску... І пальцамі... які ты разумны! шчыра усьцешылася яна. — Аднак, боязна, каб ты не застудзіўся. Вунь над ракой які туман.

— А ты сама?

— Я не баюся: што мне зробіцца?

— Ну, і я не баюся. Дзядзька Максім кажа, што мужчына не павінен нічога не баяцца: ні холаду, ні голаду, ні грому, ні хмары.

Праз часіну рослая постаць паказалася на узгорку, які аддзяляў двор ад берагу, і голас далёка разьліўся у ціхы вечару:

— Па-ні-чу-у!

— Цябе клічуць, — сказала дзяўчынка, устаючы.

— Так, але мне ісьці ня хочацца.

— Ідзі, ідзі! Я да цябе заўтра прыйду. Цяпер цябе чакаюць і мяне таксама.

IV

Дзяўчынка выканала сваё абяцаньне і нават раней, чымся Петрык мог на гэта разьлічваць.

Назаўтра, седзячы у сваім пакоі, як і заўсёды, на лекцыі з Максімам, Петрык раптам падняў галаву, прыслухаўся і, ажывіўшыся, сказаў:

— Пусьці мяне на часінку. Там прыйшла дзяўчынка.

— Якая яшчэ дзяўчынка? — зьдзівіўся Максім і пайшоў сьледам за хлопчыкам.

Запраўды, учарашняя знаёмая Петрыка у тую самую хвіліну увайшла у двор і, убачыўшы Анну Міхайлаўну, якая праходзіла па двары, накіравалася проста да яе.

— Што табе, мілая дзяўчынка, патрэбна? — запыталася тая, падумаўшы, што яе прыслалі за нейкай справай.

Дзяўчынка працягнула ёй руку і запыталася:

— Гэта у вас ёсьць сьляпы хлопчык?... Так?

— У мяне, мілая, так, у мяне, — адказала спадарыня Папельская, любуючыся ейнымі яснымі вачыма.

— Бачыце... Мама пусьціла мяне да яго. Ці магу я яго бачыць?

Але у гэтую хвіліну Петрык сам падбег да яе, а на ганку паказалася постаць Максіма.

— Гэта учарашняя дзяўчынка, мама! Я табе гаварыў, — сказаў хлопчык, вітаючыся. — Толькі у мяне цяпер лекцыя.

— Ну, на гэты раз дзядзька Максім звольніць цябе, — сказала Анна Міхайлаўна, — я яго папрашу.

З гэтага дня дзяўчынка, якую звалі Эвэлінай, кожны дзень прыходзіла у двор, а праз некаторы час і яна зрабілася вучаніцай Максіма.




Я вяртаўся з паляваньня і ішоў па садовай алеі. Перада мной бег сабака.

Раптам ён сьцішыў свае крокі і пачаў падкрадвацца, быццам пачуўшы перад сабою дзічыну.

Я глянуў уздоўж алеі і убачыў маладога вераб'я, з жаўцізнаю каля дзюбкі і пухам на галаве. Ён зваліўся з гнязда — вецер моцна хістаў бярозы алеі — і сядзеў нярухома, бездапаможна растапырыўшы крыльцы, якія яшчэ толькі пачыналі расьці.

Мой сабака памалу набліжаўся да яго, як раптам, сарваўшыся з блізкага дрэва, стары чорнагруды верабей каменем упаў перад самай ягонай мордай і, увесь ускудлачаны, страшны, з распачлівым і жаласным піскам скокнуў разы два да зубастай разяўленай ляпы. Ён кінуўся ратаваць, ён засланіў сабою сваё дзіцянё... Усё ягонае маленькае цела дрыжэла ад жаху, галасок адзічэў і ахрып, — ён заміраў, ён ахвяроўваў сваё жыцьцё.

Якім вялізарным зьверам павінен быў яму здавацца сабака! І усё-ткі ён ня мог уседзець на сваёй высокай галінцы... Сіла, мацнейшая за ягоную волю, скінула яго адтуль.

Мой Трэзор спыніўся, падаўся назад... Відаць, і ён вызнаў гэтую сілу. Я хутчэй паклікаў зьдзіўленага сабаку і пайшоў далей расчулены.

# БАЙКІ

## АЛЕНЬ

Алень падыйшоў да рэчкі напіцца, убачыў сябе у вадзе і пачаў цешыцца з сваіх рагоў, што яны вялікія і разьвілістыя, а на ногі паглядзеў і кажа: «Толькі ногі мае дрэнныя і слабенькія». Раптам выскачыў леў і пагнаўся за аленем. Алень кінуўся наўцёкі па чыстым полі. Ён уцякаў, а як дабег да лесу, зачапіўся рагамі за сукі, і леў схапіў яго. Як прышлося гінуць аленю, ён і кажа: «Вось які дурань я! Пра што думаў, што і слабенькія і дрэнныя, тыя ратавалі, а з чаго цешыўся, ад тых загінуў».

## ДВА СЯБРЫ

Ішлі лесам два сябры і выскачыў на іх мядзьведзь. Адзін кінуўся уцякаць, узьлез на дрэва і схаваўся, а другі застаўся на дарозе. Рабіць яму ня было чаго: ён паваліўся на зямлю і прыкінуўся мёртвым. Мядзьведзь падыйшоў да яго і пачаў абнюхваць: ён і дыхаць перастаў. Мядзьведзь панюхаў ягоны твар, падумаў, што мёртвы, і адыйшоўся. Калі мядзьведзь пайшоў, той зьлез з дрэва і сьмяецца: «Ну, што, кажа, мядзьведзь табе на вуха казаў?» «А ён сказаў мне, што дрэнныя тыя людзі, якія у небясьпецы ад сяброў уцякаюць».

## ІЛГУН

Хлопчык пасьвіў авечак і, быццам убачыўшы ваўка, пачаў крычаць: «Памажэце, воўк! воўк!» Сяляне прыбеглі і бачаць: няпраўда. Як зрабіў ён так і два і тры разы, здарылася — і запраўды прыбег воўк. Хлопчык пачаў крычаць: «Сюды, сюды хутчэй, воўк!» Сяляне падумалі, што ён зноў паранейшаму ілжэ, — не паслухалі яго. Воўк бачыць — баяцца няма каго: на прасторы перадушыў усе авечкі.

## САБАКА І ЯГОНЫ ЦЕНЬ

Сабака ішоў па кладачцы праз рэчку, а у зубах нёс мяса. Убачыў ён сябе у вадзе і падумаў, што там другі сабака мяса нясе, — ён выпусьціў з зубоў сваё мяса і кінуўся адбіраць у другога: таго мяса зусім ня было, а сваё з вадою паплыло. І не засталося у сабакі нічога.







# КАЗЮЛЕЧКА

Як радзілася казюлечка, ніхто ня бачыў. Было гэта у сонечны летні дзень. Казюлечка азірнулася навакол і сказала: «Добра». Распусьціла яна свае крылачкі, паскрабала цененькія ножачкі адна аб адну, яшчэ раз азірнулася навакол і сказала: «Як добра, якое сонца цёплае, якое неба блакітнае, якая траўка зялёная, добра-добра, — і усё маё!»



Трапятнула казюлечка крыльцамі і паляцела, а унізе, у зялёнай траўцы, схавалася чырвоная красачка. Спусьцілася казюлечка, села на красачку і давай піць салодкі мядок з красачкі. «Як добра», — пішчыць радасна казюлечка, — і усё маё!»



Ня скончыла яшчэ казюлечка піць мядок, як з шумам наляцеў чмель, ды проста да казюлечкі: «Ж-ж! Хто залез у маю краску? Ж-ж-ж! Хто п'е мой мёд? Ж-ж-ж! Уцякай, пакуль джгалам цябе не укалоў!»

— Што-ж гэта такое? — запішчэла казюлечка.— Усё маё!

— Ж-ж-ж, не тваё!

Казюлечка ледзь уцякла ад злоснага чмяля.

За некалькі гадзін казюлечка пазнала многа. Пазнала яна, што апроч неба, сонца, траўкі і красак, ёсьць на сьвеце злыя чмялі, многа усякіх чарвячкоў, а на некаторых красках — вострыя калючкі. Але ня доўга сумавала казюлечка. Паляцела далей, бачыць— вада. «Ну, гэта ужо маё, як тут весела: вада, траўка, кветкі!»

А насустрач ёй ляцяць другія казюлечкі. Падляцела да іх казюлечка, далучылася — і давай разам гуляць, лётаць, круцiцца. Наша казюлечка так разгулялася, што і пра страх забылася. Нагуляўшыся, села адпачыць на высокую траўку, глядзіць, як другія весяляцца.





Раптам верабей — як шмыгне каля іх. Ай-ай! — запішчэлі усе казюлечкі і кінуліся ува усе бакі. Як верабей праляцеў, шмат казюлечак ня стала.

— Ай, разбойнік, колькі казюлечак зьеў, — злаваліся старыя казюлечкі. Гэта было горш чмяля.

Наша казюлечка пачала баяцца, схавалася з другімі маладымі казюлечкамі глыбей у балота. Дый тут бяда. Дзьвюх казюлек зьела рыба, дзьвюх жаба язычком глынула.

Добра толькі, што казюлечак было многа, ніхто не заўважаў страты, новыя хутка нараджаліся.

Яны прыляталі і зумкалі: усё наша, усё наша!

— Не, ня усё наша, — зумкала ім казюлечка, — ёсьць яшчэ чмялі, вераб'і, рыбкі ды жабкі, будзьце асьцярожныя, сястрыцы!

Але ужо набліжалася ноч і усе казюлечкі паснулі.





Гэтак пражыла казюлечка усё лета. Многа яна весялілася, многа і страху было. Два разы чуць ня глынуў яе верабей, адзін раз неяк жабка падкралася, чуць здолела уцячы; ды ці мала у казюлечкі страхаў, але і радасьці шмат было.

А як настала восень, казюлечка сказала: «Як я змарылася!»

І ніхто ня бачыў, як яна памерла. Ды яна і не памерла, а заснула на зіму.

# Хвасты
## казка

Быў час, калі у зьвяроў ня было хвастоў. Ня было чым адмахнуцца ад мух ні каню, ні карове, і вавёрка не магла так спрытна скакаць з дрэва на дрэва, з галінкі на галінку. І парашылі зьвяры, якія былі хітрэйшымі, набыць хвасты. Паклікалі яны сарок-белабок і сказалі:

— Вы, сарокі-белабокі, ляціце па горах, па далінах, па лясох, па лугох, паклічце усіх зьвяроў. У такі-та дзень, як толькі сонца узыйдзе, у такім-та мейсцы хвасты будуць раздаваць.

Паляцелі сарокі ва усе бакі, трубы вялікія узялі і закрычалі:

— Вы, зьвяры лесавыя, палявыя, лугавыя, вадзяныя, прыходзьце да вялікіх дубоў на усходзе сонейка у такі-та дзень хвасты атрымліваць.

Усе замітусіліся.

— А што такое хвасты? А навошта яны? Для чаго яны?

А лісіца кажа:

— Калі даюць, трэба браць, — пасьля разьбярэмся, навошта яны.

Вось у вызначаны дзень падаліся зьвяры, хто паўзком, хто бягом, хто скокам, хто лётам — усе на палянку да лесу, дзе хвасты будуць раздаваць.

Маленькі палявы зайка пачысьціў сваю футру, лапкамі памыўся, таксама па хвосьцік сабраўся. Высунуў галаву з норкі, а дожджык яму кап-кап, ды проста на нос. Напалохаўся зайчык: «заб'е мяне дожджык!» і схаваўся зноў у норку. Сядзіць і чуе: туп-туп-туп! Трашчаць дрэвы, шуміць трава, відаць, касалапы ідзе. Так і ёсьць.

— Дзядулька мядзьведзь, — просіць зайчык, — будзеш атрымліваць сабе хвост, папрасі і мне хоць які-небудзь.

— Добра, калі не забудуся.

«Стары ён, — думае зайчык, — забудзецца. Трэба яшчэ каго-небудзь папрасіць».

Чуе: туп-туп-туп! Дробны хмызьняк хрусьціць. Відаць, воўк бяжыць. Так і ёсьць.

— Дзядзечка воўк, будзеш сабе хвост атрымліваць, атрымай і мне хоць які-небудзь.

— Добра, калі застанецца.

«Скупы воўк, — думае зайчык, — калі і дастане, ня дасьць. Трэба яшчэ каго-небудзь папрасіць».

Чуе: туп-туп-туп! Ледзь-ледзь трава калышацца —лісічка бяжыць.

— Лісічка-сястрычка, дастань мне хвосьцік.

— Хвосьцік? Які-ж табе хвосьцік?

— Хоць які-небудзь.

— Ну, добра, выберу табе пад колер футра, — ты-ж зараз шэранькі?

— Шэранькі.

Хоць і пасьля усіх ішла лісічка, ды ведае яна самыя кароткія сьцежкі. Прыбегла раней за усіх.

Хвастоў тут процьма: вісяць і валасатыя даўгія, і голыя з кутасамі, і з кіпцюром на канцы, і як вяровачкі, і як чарвячкі, і пушыстыя, залацістыя, і белыя, і чорныя, і рудыя, і простыя і выгнутыя, і усякія-усякія.

У зьвяроў галовы закружыліся. Першая апамяталася лісіца. Выбрала сабе хвост пушысты, залацісты, мяккі.

— Мне вось гэты, — паказала яна.

Ёй гэты хвост і далі. Ходзіць лісіца, хвастом круціць, цешыцца.

Топ-топ-топ! Конь бяжыць. Падбег, выбраў сабе хвост мятлою.

—Вось дык хвост! Да самага носа хопіць абмахнуцца, — цяпер, мухі, сьцеражыцеся!

І пайшоў вельмі задаволены.

І у каровы добры хвост, і у ваўка нядрэнны: і пушысты, і моцны, і тоўсты. А вавёрачка такі атрымала, што і рулём служыць, калі яна скача, і коўдрай, калі сьпіць. Слон таптаўся, таптаўся, усім лапы адціснуў, і калі падыйшоў, дык застаўся хвост-шнурочак са шчацінкамі. Нездаволены слон нос уніз апусьціў, ды так з таго часу і ходзіць хобатам уніз. Мядзьведзь спазьніўся. Дарогаю на мёд натрапіў. Захацелася мёду паесьці — пчолы давай яго кусаць. Прышлося адбівацца, — вось ён хвост добры і пратраціў; застаўся яму кавалачак скуры, абросшы шэрсьцю. Добра — хоць чорны.

— Ну! усе? — пытаюцца адзін у другога зьвяры.

— Не, не. Я яшчэ не атрымала — рохкае сьвіньня. Відаць заваллялася яна дзесьці у балоце і забылася пра хвасты. Ды парасяты напомнілі — як запішчаць усе дванаццаць адразу: «хвосьцікаў хочам, хвосьцікаў хочам». Прышлі па хвосьцікі, а там хвасты толькі як чарвякі засталіся — тоненькія — і адзін тоўсьценькі. Як убачылі парасяты, запішчэлі: «Ня хочам такіх хвастоў, ня хочам». А што было рабіць сьвіньні, — іншых ужо няма. Яна узяла гэтыя хвасты і закруціла іх кольцамі. «Вось у нас і будуць лепшыя, чым ва усіх — хвасты кручком».

А палявы зайчык сядзіць у сваёй норцы і чакае, калі пойдуць назад зьвяры і хвосьцікі яму прынясуць. Чуе, мядзьведзь ломіцца.

— Дзядулька мядзьведзь! Прынёс мне хвосьцік?

— Адчапіся. Самому вунь які абрывак дастаўся. — І пайшоў.

Чакае зайчык. Воўк бяжыць.

— Дзядзенька воўк! Прынёс мне хвосьцік?

— Які там яшчэ хвосьцік. Я сабе ледзь захапіў вось таўсьцейшы ды касмацейшы . . . — І пайшоў.

«Ну ужо лісічка, напэўна не падманіць . . .»

Бяжыць лісічка.

— Лісічка-сястрычка, прынесла мне хвосьцік?

— Не да цябе мне там было. Я і ня успомніла. Ты паглядзі, які я сабе дастала: і мяккі, і пушысты, і залацісты . . .

І давай круціць сваім хвастом перад носам у зайчыка. А зайчык нават заплакаў ад крыўды — усе забыліся. Ляжыць і лапкамі закрыўся.

Раптам чуе зайчык: «гаў-гаў-гаў! Ффр, пффр!» Выглянуў, а гэта кот з сабакам б'юцца. Сабака свой хвост хваліць, а кот свой — ды і пасварыліся. Сабака як хопіць ката за хвост, ды самы вось кончык і адкусіў. Кот на дрэва скок. А кончык катовага хваста закаціўся у зайкаву норку. Схапіў яго зайчык і прырасьціў да таго мейсца, куды трэба.

А кот з сабакам і да гэтага часу усё сварацца.

# Новае убраньне караля

## КАЗКА

Многа год таму жыў кароль. Ён так любіў прыгожыя новыя вопраткі, што траціў усе свае грошы, каб толькі найлепш прыбрацца. Ён не клапаціўся аб сваіх салдатах і думаў толькі пра тое, каб пафарсіць новым убраньнем. На кажную пару дня у яго было іншае адзеньне.

У сталіцы, дзе ён жыў, было вельмі весела, і кажны дзень туды прыяжджала многа чужаземцаў. Аднойчы прыехалі два ашуканцы, якія выдалі сябе за ткачоў. Яны даводзілі, што умеюць ткаць лепшае сукно, якое толькі можна уявіць. Ня толькі хварбы і узоры гэтага сукна надзвычайна прыгожыя, але самая вопратка, якая шылася з яго, была такая, што людзі, нядатныя да сваёй працы або зусім дурныя, не маглі яе бачыць.

«Ах, якія дзівосныя вопраткі! — думаў кароль.— Вось калі-б у мяне была такая вопратка, я мог-бы даведацца, хто у маёй дзяржаве нядатны на свае становішча і мог-бы адрозьніць дурняў ад разумных. Трэба, каб мне зараз-жа наткалі такога сукна».

І ён даў ашуканцам вялікі задатак і загадаў ім зараз-жа пачаць працу.

Запраўды, яны паставілі два ткацкія станкі і прыкінуліся, што ткуць, але у іх на станкох ня было нічога. З першай-жа хвіліны яны патрабавалі найтанчэйшага шоўку і найлепшага золата, але шоўк і золата яны хавалі у сваёй кішэні, а працавалі за пустымі станкамі з раніцы да самай ночы.

### ПЕРШЫ ГРОМ

Голасам моцным, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

Гай страсануўся, дрыгнула поле,
Долы той гук панясьлі;
Ў гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасьць зямлі.

Ў грукаце гэтым многа ёсьць сілы,
Чуецца моц і прастор . . .
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш сьмех паміж гор.

### ЛЕТАМ

Ласкава зірнула
Зранку ў хату сонца
І заззяла ясным
Бляскам на ваконцы.

У зялёны гай мы
Пойдзем сёньня, дзеткі:
Ягады ўжо ёсьць там,
І красуюць кветкі.

Там, паміж кустамі,
Знойдзем мы суніцы;
Ў лесе нас чакаюць
Сьпелыя чарніцы.

Там іскрыцца срэбрам
Рэчка на прасторы.
Запяем мы ў гаі
Песьню дружным хорам.

Будуць пець вясёла
Разам з намі птушкі;
З намі загамоняць
І жучкі і мушкі.

«Хацелася-б мне ведаць, ці многа яны наткалі сукна», думаў кароль; але яго ахапляў страх пры думцы, што той, хто дурны або нядатны на свае становішча, ня можа убачыць сукна . . . Вядома, ён быў упэўнены, што за сябе яму няма чаго баяцца, але усё-ж ён лічыў лепш паслаць каго-небудзь іншага паглядзець, як ідзе праца. У горадзе ужо усе пачулі пра гэтае сукно, і кажны быў цікавы даведацца, наколькі дурны ці нядольны ягоны сусед або знаёмы.

«Пашлю я хіба да ткачоў свайго сумленнага міністра, — парашыў кароль. — Ён хутчэй за усіх убачыць, што за сукно. Чалавек ён разважлівы і на ягонае становішча цяжка знайсьці больш здольную асобу .

І вось,стары дабрак-міністар пайшоў у залю, у якой за пустымі станкамі сядзелі абодва ашуканцы.

«Што такое? — думаў міністар і шырока раскрыў вочы. — Ды я-ж нічога ня бачу!»

Але ён гэтага ня выказаў уголас.

Ашуканцы запрасілі яго падыйсьці бліжэй і запыталі:

— Ці-ж ня праўда, які цудоўны узор, якія прыгожыя хварбы? — Пры гэтым яны паказалі на пусты станок.

Бедны міністар з усёй сілы цёр вочы, але ня мог нічога убачыць, бо нічога перад ім і ня было.

«Што такое? — падумаў ён. — Няўжо я дурны? Сам я ніколі гэтага не заўважаў, і трэба, каб ніхто гэтага ня ведаў. Няўжо я нядатны на свае становішча? Не, я ніколі не скажу, што ня бачыў сукна .

— Ну, што скажаце? — запытаў адзін з ткачоў.

— О, прыгожае сукно, прыгожае! — адказаў стары міністар, пільна углядаючыся праз акуляры у пусты станок. — Які узор, якія хварбы! . . . Ды я зараз-жа дакладу каралю, што мне вельмі спадабалася ваша праца.

— Як прыемна гэта чуць! — сказалі ткачы і пачалі называць хварбы і тлумачыць хітры узор.

Стары міністар уважліва слухаў, каб потым перадаць іхныя словы каралю. Так ён і зрабіў.

З гэтага дня ткачы пачалі патрабаваць яшчэ больш золата і шоўку, быццам для тканіны. На самай справе яны усё гэта клалі у свае кішэні. На станок не папала ніводнай ніткі, і яны, як і раней, працавалі за пустымі станкамі.

Кароль хутка знайшоў другога прастадушнага урадоўца, якому даручыў даведацца, як ідзе праца і ці хутка будзе гатова сукно.

З ім адбылося тое-ж самае, што і з міністрам. Ён глядзеў уважліва, але з прычыны таго, што апрача пустога станка перад ім нічога ня было, дык і ня мог убачыць.

—Ці-ж ня праўда, якое цудоўнае сукно? — хвалілі ашуканцы і паказвалі прыгожы узор і хварбы, якіх на самай справе ня было.

«Ды я усё-ж ня дурань, — думаў урадовец. Значыцца я няздатны да працы. Вельмі дзіўна. Няхай лепш гэтага ніхто ня ведае...

І ён таксама пачаў расхвальваць сукно, якога ня бачыў.

— Так, прыгожае сукно, — далажыў ён каралю.

У горадзе усе толькі і гаварылі пра гэтае цудоўнае сукно.

Нарэшце сам кароль пажадаў убачыць сукно, пакуль яно знаходзілася яшчэ на станку. З цэлаю сьвітай прыдворных і вяльможаў, сярод якіх знаходзіліся і міністар з урадоўцамі, якія ужо бачылі сукно, ён пайшоў да хітрых ашуканцаў.

— Ці-ж ня праўда, цудоўнае сукно? — гаварылі прастадушныя урадоўцы. — Паглядзеце толькі, ваша вялікасьць, які узор, якія хварбы! — і пры гэтым яны паказвалі на пусты станок, бо думалі, што іншыя бачаць сукно.

«Што гэта? — падумаў кароль. — Я-ж нічога ня бачу... проста дзіўна... дурны я, ці што, або няздатны у каралі? Гэта страшней за усё, што магло-б здарыцца са мной».

О, вельмі прыгожае! — сказаў кароль.

Ён са здаволеным выглядам ківаў галавою і разглядаў пусты станок. Ён не хацеў прызнавацца, што нічога ня бачыць. І уся сьвіта, якую ён прывёў з сабою, глядзела напружыўшы вочы,але усе бачылі ня больш, як іншыя, і усё-ж-ткі сьцьвярджалі усьлед за каралём: «О, якое хараство!» і раілі яму надзець новае убраньне з цудоўнай тканіны у час урачыстай працэсіі, якая хутка мелася адбыцца.

— Вельмі добра! цудоўна — пераходзіла з вуснаў у вусны, і усе былі у захапленьні. Кароль выдаў абодвым ашуканцам па ордэну у пятліцу і па тытулу тайнага прыдворнага ткача.

Усю ноч да самай раніцы, у якую мелася адбыцца працэсія, ашуканцы ня спалі і працавалі пры сьвечках. Усе маглі бачыць, як яны занятыя падрыхтоўкай новага убраньня для караля. Яны прыкінуліся, быццам здымаюць сукно са станкоў, рэзалі вялізарнымі ножніцамі паветра, шылі іголкамі бяз нітак і нарэшце абвясьцілі: «Ну, вось і гатова убраньне».

Кароль зьявіўся да іх са сьвітай, і ашуканцы падымалі рукі угору, нібы трымалі у іх нешта і прыгаварвалі:

—Глядзеце, ваша вялікасьць, вось панталоны, вось камзол, вось мантыя... — і гэтак далей. — Лёгкія, як павуціна! Можна падумаць, што на целе нічога няма, але у гэтым і ёсьць уся перавага! —

— Так, — згаджаліся прыдворныя, але нічога не маглі убачыць, бо перад імі нічога ня было.

— Дазвольце, ваша каралеўская вялікасьць, зьняць вашу шаноўную вопратку, — сказалі ашуканцы. — Мы надзенем на вас новую перад вялікім люстрам.

Кароль зьняў сваю вопратку, і ашуканцы зрабілі выгляд, што надзяюць на яго новае убраньне, сатканае і пашытае імі. Яны прыкідваліся, што зашпільваюць гузікі, завязваюць бант, а потым шырока узмахнулі рукамі, як быццам накінулі на плечы караля каралеўскую мантыю. А кароль, аглядаючы сябе, круціўся ва усе бакі перад люстрам.

— Як дзіўна яно аблягае вас! Як цудоўна ляжыць! — захапляліся усе. — Які узор, якія хварбы! Якое каштоўнае убраньне! — Там унізе падрыхтаваны бальдахім, які панясуць над вашай вялікасьцю у час урачыстай працэсіі, — паведаміў галоўны цырамонімайстра.

— Ну, ці усё у парадку? — запытаў кароль. — Ці-ж ня праўда, як добра ляжыць? — і пры гэтым ён яшчэ пакруціўся перад люстрам, бо павінен быў паказаць усім, што аглядае сваё новае убраньне.

Камэргэры, якія павінны былі несьці шлейф каралеўскай мантыі, нахіляліся да падлогі, быццам падымалі шлейф. Яны трымалі перад сабою рукі у паветры; яны не адважваліся паказаць, што нічога ня бачаць... што несьці няма чаго.

І вось кароль важна ішоў пад раскошным бальдахімам, а народ на вуліцах і у вокнах крычаў:

— О, якое убраньне! Якая пышная мантыя! Як усё прыгожа ляжыць!

Ніхто не хацеў паказаць, што ён нічога ня бачыць, гэта азначала-б, што ён або няздатны на сваё становішча, або зусім дурны. Ні адно з ранейшых каралеўскіх убраньняў не выклікала такой зацікаўленасьці.

— Ды на ім-жа нічога няма! — раптам закрычаў маленькі хлопчык.

— Вы чуеце голас нявіннага дзіцяці? — сказаў ягоны бацька, і людзі пачалі шаптаць адзін аднаму на вуха словы хлопчыка: — На ім нічога няма!

— Ды на ім-жа нічога няма! — закрычаў нарэшце увесь народ.

Каралю зрабілася няёмка, бо і яму самому здавалася, што народ праўду кажа; але ён падумаў: «Цяпер застаецца толькі адно — трымаць сябе з гонарам». Ён прыняў яшчэ больш горды выгляд, а камэргэры паранейшаму несьлі за ім шлейф, якога ня было.




Аднойчы у старажытнай Грэцыі рыбакі закінулі невад у мора, запрадаўшы нейкаму купцу наперад увесь улоў з тоні. Калі выцягнулі сетку, то у ёй знайшлі залаты трыножнік. Рыбакі не хацелі аддаць яго купцу, які купіў тоню. Яны казалі, што прадалі яму толькі рыбу, якая будзе у сетцы. Але купец цьвердзіў, што трыножнік належыцца яму, бо ён купіў усё, што трапіць на ягонае шчасьце у невад.

Каб скончыць спрэчку між рыбакамі і купцом, нехта параіў аддаць гэтую супярэчную знаходку наймудрэйшаму чалавеку у Грэцыі. Рыбакі і купец згадзіліся на гэта. Тады сабраўся народ і усе аднадушна прысудзілі аддаць залаты трыножнік Талесу. Але Талес, як праўдзівы мудрэц, быў вельмі сьціплы. Ён ня прыняў дару і паслаў яго другому грэку. Другі паслаў да трэйцяга, трэйці да чацьвертага і т. д. Гэткім чынам залаты трыножнік пабываў у сямёх грэцкіх мудрацоў. Але не дастаўся ніводнаму з іх, таму, што усе сем са сьціпласьці адмовіліся вызнаць сябе мудрацамі.

З таго часу гэтых сямёх грэкаў, якія адмовіліся вызнаць сябе мудрэйшымі чымся іншыя, народ урачыста назваў:

— Сям'ю мудрацамі Грэцыі.

# ГУМАР



— Што-ж гэта, Пятручок? — Паеў, паеў усе абаранкі, а аб малой сястрыцы і не падумаў?

— Я, мамачка, усё думаў, усё думаў ды баяўся, каб яна ня прыйшла, пакуль ня зьем!



Была халодная зіма. Ня было чаго вераб'ём есьці. Паляцелі вераб'і на гумнішча. Знайшлі яны там каласок і пачалі за яго біцца.

Доўга біліся вераб'і. Аж тут угледзеў певень каласок, ухапіў яго дый панёс.

## ЮРАЧКА

I

Ой ты, Юрачка,
Што ня вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся.

А як вырасьцеш
Ты няўмекаю,
Усе высьмяюць
Недарэкаю.

А ў нашага Юрачкі
Зьелі сала шчурачкі,
Як пабег ён у лясок,
Каб схавацца ад кніжок.

А ў нашага Юрачкі
У капоце дзюрачкі,
Нарабіў ён іх сабе,
Як стаў лазіць па вярбе.

II

Ой ты, Юрачка,
Што лянуешся,
Хаткі нашае
Ня пільнуешся?

Толькі бегаеш,
Забаўляешся,
Гэтак з кпінамі
Напаткаешся.

А ў нашага Юрачкі
Пагублены гузічкі, —
Ён тады іх пагубляў,
Як з садочка уцякаў.

А з нашага Юрачкі
Сталі кпіць і курачкі,
Што ня мыўся цэлы дзень
І бубніць, як авадзень.

III

Ой ты, Юрачка,
Кінь ляніціся,
Ды надумайся
Ты вучыціся.

Будзем цешыцца,
Што ты вучышся,
І да невукаў
Не далучышся.

А нашаму Юрачку
Кот зрабіў пячурачку, —
Юрка мейсца там заняў
І з катком — курняў! курняў!

А нашаму Юрачку
Тнуў камар у скурачку,
А Юрачка — ай-ай-ай!
Камарочак, ня кусай!





Пякла маці аладкі, а сынок Янучок круціўся каля яе, ды і кажа:

— Чаму ты, мамка, са мною не гаворыш?

— Што-ж я буду табе гаварыць?

— Ну, хоць што... вось сказалі-б: — На, табе, Янучок, аладачку!



Кажа матка да чатырохгадовае Ганулькі:

—Ганулька, навошта-ж ты цягнеш катка за хвост? Гэта-ж яму баліць!

— Я, мамачка, не цягну, а толькі трымаю за хвосьцік, а каток сам цягне!